**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 1 (717) 2 студзеня 2014 года.**
**Кошт свабодны.**

*Са святам Нараджэння Хрыстова!*

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



Прывітанне, Новы год!
Снегавы і золкі.
Завадзі нам карагод,
Каля нашай ёлкі!

Пахні, ёлачка, смалой,
Быццам летам зёлкі!
Карагод, карагод,

Засяпаем звонка.
Весяліся, народ!
Закружыся, ёлка!

Ой, дзядуля, Дзед Мароз,
Сып на ёлку зоркі!
Стань, Снягурка, ў карагод,
Каля нашай ёлкі!

*Верш Івана Цітаўца*

*Фота Ул. Скрабатуна.*



Падаць абвестку ў «Вольнае Глыбокае» можна не выходзячы з дому, патэлефанаваўшы на ________ №166

Докшыцкі раён

# Каб часцей усміхаліся дзеці

■ Чэслаў Якубовіч

**На фоне пагаршэння адносін Беларусі з Еўрасаюзам стасункі афіцыйнага Мінска з Польшчай яшчэ больш праблемныя.**

Аднак гэта не перашкаджае чалавечым і культурным кантактам, палякі па аб'ёме прамых замежных інвестыцый у айчынную эканоміку займаюць 6-е месца на кантыненце. Вось ужо некалькі гадоў таксама дзейнічае гуманітарная замежная праграма МЗС гэтай краіны "Польская дапамога". Летась напрыканцы года супрацоўнікі польскага пасольства вырашылі дапамагчы Бягомльскай дапаможнай школе-інтэрнаце для дзяцей з парушэннямі развіцця, што ў Докшыцкім раёне. У гэтай установе да таго ж кожны трэці дзіця пакрыўджаны лёсам, з'яўляецца інвалідам з маленства. Палякі за свае сродкі набылі для дзетак інтэрната сучасную спартыўна-забаўляльную пляцоўку коштам больш 10 тысяч еўра. Валанцёры са сталіцы спачатку прывезлі ў Бягомль і змантавалі ў школе два сучасныя дзіцячыя гульнявыя комплексы і чатыры гушкалкі на пружынах, папулярныя сярод дзетак. У будучым тут можна будзе гуляць і ў баскетбол на новай пляцоўцы, умацоўваць сілы старшакласнікам на двух спорткомплексах. Яшчэ шэраг іншых падарункаў і салодкіх ласункаў выхаванцам інтэрната прывёз і асабіста дарадца Надзвычайнага і паўнамоцнага пасла Польшчы ў Беларусі Павел Есса з калегамі. Ганаровых гасцей сустрэлі ў школе гасцінна, з хлебамсоллю, пазнаёмілі са сваім жыццём, уручылі падарункі рукадзелля ад школьніц. Ва ўрачыстай абстаноўцы была перарэзана чырвоная стужачка на абноўленай пляцоўцы, а прадоўжылася свята напярэдадні Каляд спартыўнай праграмай, калі настрой ва ўсіх быў прыўзняты ад радаснай падзеі.

Пастаўскі раён

# Заслужаная кара

■ Кастусь Александровіч

**Больш 10 гадоў назад жыхароў Пастаў шакіравала вестка аб жудасным забойстве маладой дзяўчыны, труп якой знайшлі ў калодзежы на адной з цэнтральных вуліц горада.**

Тады многія сем'і баяліліся з'яўлення маньяка і трывожыліся за сваіх родных. Аднак доўгі час выйсці на след забойцы не ўдавалася і здавалася, што гэту крымінальную справу раскрыць не ўдасца нават пасля адпрацоўкі да 350 падазроных. Але на той момант душагуб з'ехаў за мяжу ў Латвію, дзе паспеў сесці за краты. Праўда, справу ў архіў здаваць не спяшаліся, а год назад у студзені следчая група з прафесіяналаў са сталіцы затрымала вераломнага забойцу. Яму былі прад'яўлены знойдзеныя доказы злачынства, супалі біялагічныя сляды забойцы, пакінутыя на целе загінуўшай. Урэшце рэшт ён вымушаны быў прызнацца, як у тую ноч, калі меў звальненне на выхадныя з мясцовай воінскай часці, пайшоў на злачынства. Ноччу мярзотнік сустрэў дзяўчыну пасля дыскатэкі, сілай яе згвалтаваў у двары прыватнага дома. Баючыся адказнасці, ён яе стаў душыць і яшчэ паўжывую скінуў у калодзеж, дзе яна і загінула. Злачынца пры гэтым скраў яе залаты пярсцёнак, доўга яго захоўваў, а потым прадаў. У выніку ваенны суд пакараў забойцу, які паспеў займець сям'ю і ціха жыў, 19 гадамі калоніі ўзмоцненага рэжыму. А вось іншага мярзотніка, 34-гадовага "шабашніка" з Брэсцкай вобласці, які перад Калядамі пашкодзіў і разбіў 54 помнікі на могілках у аграгарадку Камаі, кара яшчэ чакае. Вандал можа адправіцца і ў псіхушку, калі адпаведная экспертыза прызнае яго душэўна хворым.

Чашніцкі раён

# Нічога святога за душой

■ Станіслаў Раманчук

**Пад канец года з розных куткоў вобласці сталі прыходзіць і жахлівыя паведамленні, адно страшней другога.**

Пра што казаць, калі і зімы сапраўднай яшчэ не было, а напярэдадні светлага свята паяднання і любові Божага нараджэння за адны суткі ў агні, пасля часцей на выпітку, загінулі ў агні адразу 7 чалавек. У Чашніцкім раёне не паспелі перажыць трагедыю з гібеллю некалькі хлопцаў пасля застолля на памінках, як здарылася новая гісторыя з разраду айчынных крымінальных сенсацый. У мясцовым райаддзеле міліцыі супрацоўнікі да многага ўжо прывыклі, аднак усё ж было не па сабе, як можна было сыну забіць сваю маці, а потым яшчэ яе цела ўтапіць у яме, запоўненай талай бруднай вадой. Як высветлілася, гэту гора-сям'ю, у якой маці з родпай крывіначкай у мінулым ужо мелі непрыемнасці з законам, аднеслі да нядобранадзейных у суседнім Лепельскім раёне, дзе яны жылі. Там гэта парачка нідзе не працавала, пераўтварылася ў ціхіх п'яніц, але за вялікія даўгі па аплаце камунальных паслуг была пазбаўлена займаемага жылля і перасяленa да суседзяў. Выпівохі пераехалі ў вёску Данілаўка, дзе і працягвалі апускацца, весці паразітычны лад жыцця. У выніку ўсё дайшло да такога вось дзікага фіналу. Праўда, спачатку ў мясцовы РАУС прыехаў 38-гадовы мужчына і падаў заяву аб знікненні сваёй маці. Аднак аператыўнікаў насцярожыла, што ён надта нервуецца і вядзе сябе падазрона. Тонкі псіхалагічны тон размовы апраўдаўся і заяўнік прызнаўся, што ён пасварыўся і сваю маці зарэзаў, а потым утапіў. У апошні момант нешта перавярнулся ў свядомасці і ён прызнаўся, потым паказаў месца грэхападзення.

# Аб самым надзённым

## УСТОЙЛІВАГА РАЗВІЦЦЯ І ЎХІЛЕННЯ ІСНУЮЧЫХ ДЫСБАЛАНСАЎ У ЭКАНОМІЦЫ ЛЕТАСЬ НАША КРАІНА НЕ ДАБІЛАСЯ



■ Аляксандр Цішкевіч

**А вось у чым можа быць упэўненымі, дык гэта, што перазімуем і пакуль не ўбачым новых надрукаваных беларускіх грошай з прыбранымі нулямі на банкнотах, бо з такім ростам цэн, як апошнія гады, праводзіць дэнамінацыю можа толькі самы неразумны. Інфляцыю на бягучы год цяпер мяркуюць захаваць на ўзроўні 11 % .**

Яшчэ некалькі гадоў назад, сапраўды, сінявокая наша дзяржава дэманстравала адны з самых высокіх у свеце тэмпаў развіцця сваёй эканомікі. Загаварылі нават асобныя рупары ад ідэалогіі аб нейкім беларускім "эканамічным цудзе" і росквіце айчыннай мадэлі сацыялізму з рыначнай спецыфікай. Лідар расійскіх камуністаў Г. Зюганаў, нагадаем, на апошнім 4-м Усебеларускім народным сходзе ў снежні 2010 года ўсяляк хваліў нашы дасягненні і даводзіў, што мы значна абагналі Расію сваімі эканамічнымі паказчыкамі.

Што было потым, калі прыйшоў паслявыбарны крызісны і абвальны 2011 год, яшчэ больгасць з нас не забыліся. Пазалетась было крыху лягчэй, але тэмпы росту знізіліся, праўда, тады ўдалося пазбегнуць абвалу беларускага рубля і страшэннай інфляцыі, як перад гэтым. Услед за гэтым пралясцеў непрыкметна яшчэ адзін 2013 год, а такое адчуванне, што мы зноў топчамся на месцы і па-ранейшым жывём прадчуваннем, што вось-вось нас напаткаюць непрыемнасці на валютным рынку. Свае высновы робіць і насельніцтва, якое летась актыўна скупляла замежную валюту, а беларускі лідар на гэта адрэагаваў сваёй прапановай увесці пошліны для для выязджаючых за мяжу за пакупкамі.

Да гэтай меры аднак пакуль рукі не дайшлі, як і не сталі ўводзіць падатак для дармаедаў. А вось новую пошліну на допуск да дарожнага руху для беларусаў увялі, што аднак наўрад ці паспрыяе стабілізаваць айчынную фінансава-крэдытную сістэму. З яе дапамогай збіраюцца сабраць да 1,6 трыльёна рублёў, а патрыманыя іншамаркі для суайчыннікаў становяцца раскошай. Дарэчы, у свеце падобны падатак закладваюць у цану аўтамабільнага паліва: болей ездзіш – болей плаціш. У нас пайшлі, як заўсёды, сваім асаблівым шляхам, чым цяжэйшы твой аўтамабіль, тым большыя расходы з кашалька, хоць і выязджаеш з гаража толькі пры крайняй патрэбе.

Аднак гэта – не апошнія сюрпрызы для аўтамабілістаў. У Законе аб бюджэце Беларусі на 2014 год запланавалі стаўкі акцызаў на паліва павялічыць сёлета на 14,5 %. Могуць увесці яшчэ і ўтылізацыйны збор на імпартаваныя аўтамабілі на расійскі манер. Дзяржаўныя расходы збалансуюць у гэтым годзе таксама і за кошт тых, хто шмат курыць і п'е павышэнне адпаведных акцызаў на 20-38 %. Між тым пагаршэнне эканамічнага становішча напрыканцы мінулага стала відавочна нават на флагманах айчыннай індустрыі, такіх як МАЗ і МТЗ, дзе знізіліся заробкі, скарацілі працоўны тыдзень, а склады аказаліся перапоўненыя непрададзенай прадукцыяй.

Наша краіна ўпарта дэманструе толькі адно: жыць, як набяжыць, практычна нічога ў існуючым парадку гаспадарання і кіравання не мяняць і, як ні сумна, па сутнасці ісці ў тупік. Пацвярджаюць гэта і сумныя факты года пражытага толькі што. Летась, хто не ведае, знешні валавы доўг Беларусі вырас яшчэ больш чым на 3 млрд. долараў, альбо на амаль 10 %. Ён дасягнуў ужо астранамічнай для нас лічбы 37 мільярдаў. Спадзявалася кіраўніцтва краіны і нават публічна абяцала прыцягнуць у эканоміку пару млрд. долараў з Расіі на мадэрнізацыю, але ні цэнта не атрымалі адтуль.

Цяпер расіяне нават нафту не жадаюць нам прадаваць, а зараз ставяць умовы нарэшце прыступіць да 5 інтэграцыйных праектаў, лічы купіць шэраг нашых цікавых для расійскага бізнесу заводаў тыпу "Гродна-Азот" і стварыць холдынг КамАЗа з МАЗам. Не спраўдзіліся спадзяванні атрымаць і мільярдны крэдыт ад Кітая "жывымі" грашыма, а фактычна іх юанямі. Не атрымалі мы таксама і нават апошні транш крэдыту ЕўрАзЭС. З цяжкасцю ўдалося выплаціць ранейшыя даўгі па крэдытах, а вось цэны летась разагналіся і не ўкладіся ў запланаваныя 12 % гадавой інфляцыі. Нават за навучанне сваіх дзяцей у ВНУ бацькі сталі плаціць амаль на 20 % болей, чым раней. І што толькі не даражэла летась ад тарыфаў ЖКГ да росту цэн на грамадскі транспарт за год на 76 %.

Дарэчы, аб гэтым кожны ведае. А вось пра тое, што ў наступіўшым 2014 годзе ўрад Беларусі збіраецца скараціць больш чым на 150 тысяч чалавек колькасць занятых у прамысловасці, варта задумацца. Намячаецца правесці таксама і аптымізацыю, лічы ліквідацыю шэрагу установ культуры, аховы здароўя, іншых падраздзяленняў сацыяльнай сферы. А вось у чым можа быць упэўненымі, дык гэта, што перазімуем і пакуль не ўбачым новых надрукаваных беларускіх грошай з прыбранымі нулямі на банкнотах, бо з такім ростам цэн, як апошнія гады, праводзіць дэнамінацыю можа толькі самы неразумны. Інфляцыю на бягучы год цяпер мяркуюць захаваць на ўзроўні 11 %, аднак ніхто не ведае, як будзе на самой справе напрыканцы снежня…

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 02.01.14 | | | | Пятніца 03.01.14 | | | | Субота 04.01.14 | | | | Нядзеля 05.01.14 | | | | Пн.06.01.14 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | -1 | -1 | -1 | 0 | 0 | 0 | 0 | +1 | +2 | +3 | +4 | +3 | +1 | 0 | +1 | +3 | +3 | +4 | +5 |
| Ціск | 753 | 751 | 751 | 751 | 750 | 749 | 748 | 747 | 747 | 746 | 747 | 749 | 750 | 750 | 749 | 747 | 747 | 746 | 747 |
| Вільготнасць | 83 | 87 | 86 | 92 | 93 | 94 | 95 | 94 | 97 | 96 | 93 | 92 | 96 | 99 | 92 | 91 | 94 | 96 | 97 |
| Вецер м/сек | 4 Пд | 4 Пд | 4 Пд | 4 Пд-У | 3 Пд | 4 Пд | 5 Пд | 4 Пд-У | 3 Пд-З | 4 Пд-З | 5 З | 3 Пд | 3 Пд-З | 5 Пд | 6 Пд | 7 Пд | 6 Пд | 5 Пд | 4 Пд-З |

## Дзень за днём

**На фоне пагаршэння летась плацёжнага балансу Беларусі з 1 студзеня мінімальны заробак павялічылі да 1,660 млн. рублёў. Больш паловы беларусаў атрымоўваюць заробкі ніжэй сярэднямесячных па краіне, у чвэрці з іх даходы каля 3 млн. рублёў і меней. Са спазненнем на 3 гады на Бярозаўскай ГРЭС запусцілі новы энергаблок, гэта затрымка каштавала пасад многім службоўцам. Наша краіна стала адным з сусветных лідараў па суадносінах колькасці міліцыі да астатняга насельніцтва, што ў 6 разоў болей, чым у СССР. Неўзабаве пачнецца вылучэнне кандыдатаў у дэпутаты мясцовых Саветаў. Беларускі ўрад вырашыў пакуль прыпыніць увядзенне новага падатку на дармаедаў.**

# Важнейшыя навіны свету

**Бельгія.** Пасля няпростых перамоў міністры фінансаў дзяржаў ЕС дамовіліся аб стварэнні банкаўскага саюза і запусцілі рэжым абароны сродкаў укладчыкаў банкаў у Еўропе.

**Іспанія.** Урад краіны адмовіў рэгіёну Каталонія ў правядзенні рэферэндума аб аддзяленні, хоць 54 % баскаў, згодна апытанняў, выступаюць за выхад свайго рэгіёна з Іспаніі.

**Украіна.** На чарговым Народным веча ў Кіеве на пяты тыдзень пратэстаў мітынгуючыя стварылі агульнаўкраінскі рух "Майдан" па тыпе польскай "Салідарнасці".

**Сірыя.** Ля школы ў правінцыі Хомс падчас выбуху загінула 10 чалавек, з іх – 5 дзяцей, авіяўдар у горадзе Алеппа забраў жыцці яшчэ 44, падчас вайны ўжо звыш 100 тысяч ахвяр.

**Казахстан.** Прэзідэнт Н. Назарбаеў выказаў незадаволенасць вялікім дысбалансам ва ўзаемным гандлі з Беларуссю і допускам у краіну няякаснага беларускага мяса кароў.

**Літва.** Глава МЗС Лінас Лінкявічус заявіў, што не разумее пазіцыю беларускіх улад, якія трэці год не выконваюць падпісаны дагавор аб арганізацыі малога прыгранічнага руху.

**Германія.** Першага ў гісторыі міністра абароны жанчыну 55-гадовую Урсулу фон Ляйен, маці 7 дзяцей многія немцы бачаць найбольш рэальным кандыдатам на пасаду канцлера.

**Украіна.** Пасля атрымання крэдыту ад РФ урад у перадвыбарны год накіраваў 6 мільярдаў грывен на кампенсацыю ўкладчыкам страчаных рахункаў Ашчаднага банка СССР.

**Францыя.** Вечарам у горадзе Анціб на Лазурным беразе невядомыя ў масках абрабавалі і лёгка ранілі губернатара Краснаярскага краю РФ Л. Кузняцова ў яго доме ля Ніццы.

**Расія.** Прэзідэнт У. Пуцін памілаваў апальнага алігарха Міхаіла Хадаркоўскага, які правёў за кратамі больш 10 гадоў і напісаў прашэнне аб гэтым з-**за хваробы сваёй мамы.**

**Карэя.** Самымі надзейнымі ў свеце рухавікамі для аўто ў 2013 годзе эксперты прызналі кампанію Hyndai з яе маторамі Vehcicle Heatlth Index, яны найменш выходзяць са строю.

**Швецыя.** Беларускую журналістку Вольгу Класкоўскую перавялі ў жаночую турму з больш мяккім рэжымам, ёй далі 7 год за замах на забойства ўжо былога мужа араба.

**Канада.** Анамальны магутны ледзяны шторм сур'ёна парушыў дарожны рух, пакінуў без электрычнасці амаль паўмільёна жыхроў трох правінцый на ўсходзе краіны.

**Англія.** Па невядомых прычынах прэм'ер-міністр Дэвід Кемеран не паедзе на Алімпіяду ў Сочы, яе вырашылі байкатаваць шэраг лідараў свету з-за адносін у РФ да сэксменшасцей.

**Кітай.** Ніводзін з 6 беларускіх фрыстайлістаў не змог пераадолець кваліфікацыю на этапе Кубка свету ў Пекіне, зборнай РБ у гэтым відзе запланавалі ў Сочы заваяваць 1-2 медалі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** На парламенцкіх слуханнях урада было заяўлена, што мадэрнізацыя ў Беларусі нерэальная, бо 60 % прадпрыемстваў не маюць сродкаў на сваё тэхпераўзбраенне.

**Салігорск.** З-за зніжэння летась цэн толькі на экспарт калійных угнаенняў "Беларуськалія" на 20 % рэспубліканскі бюджэт страціў у 2013 годзе больш 3,5 % сваіх даходаў.

**Мінск.** Дэвальвацыі ў Беларусі, як заявіла старшыня Нацбанка Н. Ермакова, не будзе, новыя рублі ўжо надрукаваныя, але налета дэнамінацыя наўрад ці будзе з-за росту цэн.

**Баранавічы.** Па заключэнні ваенных экспертаў, мясцовы аэрадром у стане прыняць тут і стратэгічныя Ту-22 з ядзернай зброяй, захавалася на базе і сховішча такіх боепрыпасаў.

**Барысаў.** Каля двух гадзін ночы загарэўся цэх фанеры ААТ"Барысаўдрэў", тушэннем пажару кіраваў пару гадзін сам міністр МНС У. Вашчанка, агонь пашкодзіў 3 станкі.

**Мазыр.** Беларусь гатова прадаць, як пацвердзіў віцэ-прэм'ер П. Пракаповіч, мясцовы высокатэхналагічны НПЗ Расіі пры ўмове павелічэння паставак расійскай нафты ў РБ.

**Ветка.** Па крымінальнай справе былога главы раёна прызначылі судоваэканамічную экспертызу, ён незаконна загадаў знесці дом, каб гэты ўчастак перадалі ягонай дачцы.

**Слонім.** На вялізнай хуткасці ноччу паблізе райцэнтра патрульную машыну ДАІ пратараніла "Аўдзі А8" "залатой моладзі", мярзотнікаў затрымалі пазней у кафэ ля трасы.

**Мінск.** Намеснік памочніка дзяржсакратара ЗША Эрык Рубін пацвердзіў, што ўлады Беларусі гатовы да аднаўлення нармальнай работы амерыканскай дыпмісіі ў Мінску.

**Крупкі.** Генпракуратура РБ перадала ў суд раёна для разгляду крымінальную справу жыхара Гродзенскай вобласці, які стаў віноўнікам ДТЗ з гібеллю рэктара ВНУ з Віцебска.

**Свіслач.** Міліцыя затрымала 18-гадовага раней судзімага жыхара раённага цэнтра, які скраў у мясцовым касцёле ахвяраванні прыхаджан у суме 16 мільёнаў рублёў і 700 доляраў, патрацін з іх 3 мільёны.

**Маладзечна.** Рух 10 пасажырскіх цягнікоў і 5 электрычак з-за пажару вечарам ля вакзала ў Мінску быў спынены на 1,5 гадзіны, бо прыйшлося абястоцыць рэйкі ў накірунку горада.

**Светлагорск.** Вартаўнік на цэнтральнай алеі гарадскіх могілак знайшоў труп без гвалтоўных прыкмет 73-гадовага мужчыны, які памёр днём каля магілы сваёй жонкі.

**Вілейка.** Папа Рымскі Францыск напісаў і даслаў 86-гадовай жыхарцы вёскі Муляры, шчырай хрысціянцы Ядвізе Пастэрнак першы ў гісторыі дакумент на беларускай мове.

**Брагін.** На возеры Берасчанскае ля вёскі Новая Іолча мясцовыя жыхары знайшлі пад лёдам у 0,5 км ад берага ўмерзлы труп 67-гадовага рыбака з суседняй Украіны.

## У Беларусі будуць даваць ільготныя крэдыты для аплаты ЭКА



■ **БЕЛТА**

У Беларусі будуць даваць ільготныя крэдыты для аплаты экстракарпаральнага апладнення ( ЭКА ). Указ № 574 " Аб прадастаўленні грамадзянам Рэспублікі Беларусь крэдытаў на льготных умовах для аплаты экстракарпаральнага апладнення " 27 снежня падпісаў кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка, паведамілі БЕЛТА ў прэс - службе беларускага лідара.

"Дакументам прадугледжваецца прадастаўленне льготнага крэдыту жанчынам, якім аказваецца медыцынская дапамога ў выглядзе ЭКА, у арганізацыях аховы здароўя краіны ўсіх формаў уласнасці", - растлумачылі ў прэс - службе. У цяперашні час у Беларусі штогод праводзіцца 1700-2000 працэдур ЭКА.

Льготныя крэдыты будуць прадастаўляцца ААТ "ААБ" Беларусбанк " у беларускіх рублях тэрмінам да пяці гадоў з выплатай працэнтаў за карыстанне імі ў памеры 50 % стаўкі рэфінансавання Нацыянальнага банка. Максімальная сума крэдыту - да 300 базавых велічынь, устаноўленых на дату заключэння крэдытнага дагавора.

У адпаведнасці з указам крэдытаатрымальніку пасля нараджэння дзіцяці (дзяцей) з ужываннем ЭКА, які з'яўляецца атрымальнікам (мужам атрымальніка) дапамогі па доглядзе дзіцяці ва ўзросце да трох гадоў, на перыяд атрымання гэтай дапамогі прадастаўляецца адтэрміноўка ў пагашэнні запазычанасці па льготным крэдыце, уключаючы працэнты за карыстанне ім.

Указам таксама рэгламентаваны парадак і пералік дакументаў, неабходных для атрымання крэдыту і адтэрміноўкі яго выплаты.

## З Новага года Віцебскі аблвыканкам ўводзіць новыя тарыфы на жыллёва - камунальныя паслугі

■ **Сяржук Серабро**

**24 снежня Віцебскім абласным выканаўчым камітэтам прынята рашэнне № 793 «Аб тарыфах на жыллёва -камунальныя паслугі, якія прадстаўляюцца насельніцтву», якое з 1 студзеня 2014 года усталёўвае новыя фіксаваныя тарыфы.** Фіксаваныя тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі, якія прадстаўляюцца насельніцтву, якія субсідуюцца дзяржавай, устаноўлены наступныя: тэхнічнае абслугоўванне жылога дома - 600 рублёў за кв. м. агульнай плошчы; капітальны рамонт жылога дома - 600 рублёў за кв. м. агульнай плошчы; водазабеспячэнне - 1000 рублёў за кубаметр; водаадвядзенне (каналізацыя) - 650 рублёў за кубаметр; карыстанне ліфтам - 2.350 рублёў за кожнага зарэгістраванага жыхара. Калі ж вы плаціце па стаўцы, якая забяспечвае поўнае пакрыццё эканамічна абгрунтаваных выдаткаў, то тарыфы будуць значна вышэй: тэхнічнае абслугоўванне жылога дома - 2100 рублёў за кв. м. агульнай плошчы; водазабеспячэнне - 6900 рублёў за кубаметр; водаадвядзенне (каналізацыя) - 5700 рублёў за кубаметр; карыстанне ліфтам - 14050 рублёў за кожнага зарэгістраванага жыхара.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Глава вобласці А. Косінец заявіў, што ён будзе настойваць на тым, каб неўзабаве Віцебшчына атрымала 2 мільёны тон зерня бункернай вагі і на павелічэнне пагалоўя жывёлы.

**Мёры.** Паблізе райцэнтра пачалі ўзводзіць металургічны завод па вытворчасці белай бляхі коштам звыш 200 мільёнаў еўра інвестыцый, на ім будзе 500 новых рабочых месц.

**Паставы.** На мясцовым хлебазаводзе райпо стаў працаваць адзіны пакуль у Беларусі робат па выгрузцы-загрузцы прадукцыі, у кінатэатры "Радзіма" адкрылася новая 3D зала.

**Лепель.** Фонд "Віцебскаблмаёмасць" пераўтварыў мясцовы электрамеханічны завод у акцыянернае таварыства з мэтай наступнай яго прыватызацыі, да яе рыхтуюць 12 ААТ.

**Орша.** Услед за адкрыццём Лядовай арэны на 3 тысячы гледачоў сталі прымаць заяўкі на наведванні саўны з басейнам, цэнтраў фітнесу і боўлінгу, трэнажораў, залаў більярду.

**Віцебск.** У жывых на Віцебшчыне засталося толькі 3225 ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, аблвыканкам забяспечыць іх усім неабходным да 70-годдзя вызвалення РБ.

**Бешанковічы.** Па жаданні родных астанкі знойдзенага салдата з вёскі Дапаны, загінуўшага ў пачатку вайны пад Ленінградам, даставілі на радзіму і перазахавалі.

**Гарадок.** Жыхары раёна напярэдадні снежня ўрачыста адзначылі 70-годдзе вызвалення краю ад фашысцкіх захопнікаў, у РДК даў канцэрт ансамбль песні і танца арміі Беларусі.

**Верхнядзвінск.** Напункце пропуску "Бігосава-1" мытнікі ў грузавіку, які ехаў у Латвію, знайшлі сярод слоікаў 560 тысяч пачкаў кантрабандных цыгарэт маркі "Фэст".

**Мёры.** Парафіяльны хор "Fiat" мясцовага касцёла выпусціў свой трэці альбом "Калядны куфэрак" з 17 песнямі пра Божае нараджэнне сумесна са сталічнай капэлай Піта Паўлава.

**Ушачы.** Як ніколі шматлюдным і хвалюючым стаў у Глыбачанскай СШ-сад імя Б. Юркіна ўрачысты школьны вечар з нагоды 90-годдзя школы, сабралася шмат гасцей, выпускнікоў.

**Віцебск.** Па віне моцна п'янага 34-гадовага кіроўцы загінуў 7-гадовы хлопчык, які вечарам выходзіў з трамвая, мярзотніка неўзабаве затрымалі па спецплане "Перахоп".

**Шаркаўшчына.** У рамках дабрачыннай акцыі "Нашы дзеці" да навагодніх свят работнікі райгаза перадалі школе мастацтваў райцэнтра камплект навейшай акустычнай сістэмы.

**Полацк.** Па гарачых слядах следчыя адшукалі і затрымалі 42-гадовага жыхара вёскі Гараны, які 2 дні назад у горадзе пасварыўся з 39-гадовай знаёмай, збіў і задушыў яе.

**Докшыцы.** На слізкай трасе М3 ля вёскі Бабцы раніцай лоб у лоб сутыкнуліся фура з мікрааўтобусам, яго 23-гадовы вадзіцель цудам застаўся жывы, былі яшчэ 4 ДТЗ.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# Медыцына для «дармаедаў» стане платнай

**Медыцына для «дармаедаў» стане платнай. Таксама беларусы, якія афіцыйна не працуюць, будуць плаціць больш за «камуналку».**

Падатку на дармаедства ў 2014 годзе не будзе. Пра гэта сёння заявіў першы намеснік міністра фінансаў Беларусі Уладзімір Амарын, паведамляе БелТА.

«Пакуль ніякія рашэнні па ўвядзенні падатку з дармаедаў не прымаліся, і ў бюджэце на 2014 год ён ніяк не адлюстраваны, – сказаў Уладзімір Амарын. – Міністэрства фінансаў цяпер гэтым пытаннем не займаецца, таму што ніякія асаблівыя падатковыя абцяжаранні для непрацуючых грамадзян не разглядаюцца. У 2014 годзе падатак на дармаедства не будзе ўведзены».

Намеснік міністра выказаў здагадку, што пытанне збірання платы з непрацуючых грамадзян будзе вырашацца «не ў плоскасці падаткаабкладання». Адным з варыянтаў збірання платы могуць стаць сацыяльныя карты, і гэты варыянт цяпер прапрацоўваецца, у тым ліку Міністэрствам працы і сацыяльнай абароны.

Уладзімір Амарын таксама агучыў пункт гледжання Мінфіна з нагоды неабходнасці ўвядзення платы за сацпаслугі з непрацуючых грамадзян.

«На нашу думку, людзі, якія не ўдзельнічаюць у фармаванні валавога ўнутранага прадукту, не аплочваюць падаходны падатак у бюджэт краіны, а таксама адлічэнні ў Фонд сацыяльнай абароны і пры гэтым карыстаюцца льготамі па аказанні бясплатнай медадапамогі, бясплатнай адукацыяй, льготамі на камунальныя паслугі і транспарт, гэта значыць цэлым наборам паслуг, павінны нейк кампенсаваць кошт гэтых паслуг альбо аплачваць іх», - сказаў ён.

Нагадаем, два месяцы таму стала вядома, што ў Беларусі прапрацоўваецца пытанне па вызначэнні механізму кампенсацыі непрацуючым эканамічна актыўным насельніцтвам часткі дзяржаўных выдаткаў на аказанне ім і іх сем'ям сацыяльных і іншых паслуг, якія датуюцца дзяржавай. Пра гэта паведаміў першы намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны Пётр Грушнік на анлайн-канферэнцыі, якая прайшла на сайце ведамства.

Чыноўнік адзначыў, што ў адпаведнасці з артыкулам 56 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь грамадзяне абавязаныя браць удзел у фінансаванні дзяржаўных расходаў шляхам выплаты дзяржаўных падаткаў, пошлін і іншых плацяжоў.



У Новы год – новай сям'ёй! *Фота Ул. Скрабатуна.*

# З 1 студзеня цыгарэты ў Беларусі падаражэюць амаль у 2 разы

**Максімальныя рознічныя кошты на большасць відаў цыгарэт у Беларусі з 1 студзеня 2014 году вырастуць.**

Пры гэтым некаторыя з іх стануць даражэйшымі больш чым у 2 разы.

Новыя кошты на тытунёвыя вырабы апублікаваныя на сайце Міністэрства падаткаў і збораў.

Падаражанне закране практычна ўсе віды цыгарэт, якія вырабляюцца на тэрыторыі Беларусі, так і імпартаваных. Максімальна павялічацца ў кошце цыгарэты Credo (больш чым у 2 разы, да 5800 рублёў за пачак), менш за ўсё - Winston XSence Club Blue і Winston XSence Club Silver (на 3,6%, да 14500).

Даражэй стануць у тым ліку цыгарэты такіх марак, як Alliance, Camel, Monte Carlo, Glamour, Pall Mall, Winston, Lucky Strike, LD, Kent, Vogue, West, Dunhill, Davidoff, Richmond, Sobranie.

Папярэдні раз цыгарэты даражэлі ў пачатку снежня - на 2,4-14,4%. Як паведамлялася, у 2014 годзе чакаецца павелічэнне ставак акцызаў на тытунёвыя вырабы ад 24% да 56% (у залежнасці ад коштавай катэгорыі). Асноўныя прычыны павышэння ставак - гарманізацыя акцызнай палітыкі ў рамках АЭП і выраўноўванне коштаў на падакцызныя тавары для недапушчэння развіцця іх незаконных перавозак паміж краінамі Мытнага саюза, скарачэнне шкоднага ўплыву на здароўе насельніцтва.

# Міністэрства культуры хоча прызнаць бел-чырвона-белы сцяг гісторыка-культурнай каштоўнасцю

**Міністэрства культуры атрымала Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адносна прапановы аб наданні статусу гісторыка-культурнай каштоўнасці бел-чырвона-беламу сцягу, які у 1991-1995 гады быў дзяржаўным сімвалам нашай краіны. Адпаведны адказ быў дасланы арганізатарам кампаніі, рэдакцыі сайта «Арт Сядзібы»(http://artsiadziba.by/news/2013/12/30/minkultury-status-sciah/).**

На аснове гэтага заключэння Міністэрства культуры пагаджаецца, што бел-чырвона-белы сцяг варта захоўваць як матэрыяльны рухомы аб'ект і надаць статус гісторыка-культурнай каштоўнасці. Адпаведнае пытанне ў студзені разгледзіць на сваім пасяджэнні Навукова-метадычная рада.

У адказе, які падпісаў намеснік Міністра культуры Рэспублікі Беларусь Аляксандр Яцко, паведамляецца:

Палотнішча Дзяржаўнага сцяга Рэспублікі Беларусь, якое рэальна выкарыстоўвалася ў 1991-1995 гады, павінна існаваць і захоўвацца як матэрыяльны рухомы аб'ект і яму можа быць прапанавана надаць статус гісторыка-культурнай каштоўнасці, і ў такім выпадку неабходна дадаткова ўдакладніць яго месцазнаходжанне і стан захаванасці.

З улікам атрыманага заключэння, названая прапанова будзе ўключана ў парадак дня чарговага пасяджэння Беларускай рэспубліканскай навукова-метадычнай рады па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пра Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь, якое запланавана на студзень 2014 г.

Нагадаем, што выніковае рашэнне на аснове выснікаў студзеньскага пасяджэння Навукова-метадычнай рады, згодна з законам «Аб ахове гісторыка-культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь», будзе прымаць Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь.



# У Беларусі ІП — плацельшчыкаў адзінага падатку з 1 ліпеня 2014 года абавяжуць мець дакументы на набыццё тавару

**У Беларусі індывідуальныя прадпрымальнікі – плацельшчыкі адзінага падатку з 1 ліпеня 2014 года абавязаныя будуць мець на ўсе рэалізуемыя тавары, у тым ліку на тавары, што ўвозяцца з краін Мытнага саюза, дакументы, якія пацвярджалі б іх набыццё.**

Гэта прадугледжана праектам нарматыўнага дакумента, які прайшоў дагэтуль працэдуру ўзгаднення шэрагам зацікаўленых ведамстваў, паведаміў 23 снежня на прэс-канферэнцыі начальнік галоўнага ўпраўлення падаткаабкладання фізічных асоб Міністэрства па падатках і зборах Міхаіл Расолька.

Паводле яго слоў, праект дакумента распрацаваны ў мэтах удасканалення рэгулявання парадку рэалізацыі тавараў індывідуальнымі прадпрымальнікамі і фізічнымі асобамі. У адпаведнасці з ім для індывідуальных прадпрымальнікаў - плацельшчыкаў адзінага падатку з 1 ліпеня 2014 года ўстанаўліваецца абавязак па наяўнасці на ўсе рэалізуемыя тавары, у тым ліку на тавары, што ўвозяцца з Мытнага саюза, дакументаў, якія пацвярджаюць іх набыццё (паступленне).

Расолька зазначыў, што праектам прадугледжаны пераходны перыяд (да 31 снежня 2014 года), цягам якога ІП — плацельшчыкі адзінага падатку змогуць рэалізаваць рэшткі тавараў, завезеных на тэрыторыю рэспублікі з тэрыторыі краін Мытнага саюза да 1 ліпеня 2014 года, без дакументаў, якія б гэта пацвярджалі.

Апрача таго, з 1 ліпеня 2014 года ўводзяцца абмежаванні на рэалізацыю тавараў для фізічных асоб. У прыватнасці, прадугледжана, што без дакументаў, якія пацвярджалі б набыццё (паступленне) тавараў, фізічныя асобы будуць мець права рэалізаваць дзікарослую прадукцыю, сельскагаспадарчую прадукцыю, іншыя тавары, якія імі выраблюяцца.

*Аляксей Арэшка, БелаПАН.*

# Беларусаў — 9,4678 млн

**Колькасць насельніцтва Беларусі на 1 снежня 2013 года склала 9 млн. 467,8 тыс. чалавек.**

Натуральнае змяншэнне насельніцтва ў студзені-лістападзе зменшылася ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года на 32,5% і склала 6 тыс. 553 чалавекі. Міграцыйны прырост за студзень-лістапад 2013 года дасягнуў 10 тыс. 543 чалавекі (павялічыўся ў параўнанні з аналагічным перыядам 2012 года на 2 тыс. 165 чалавек, або на 25,8%) і кампенсаваў натуральнае змяншэнне насельніцтва, забяспечыўшы павелічэнне колькасці насельніцтва ў параўнанні з пачаткам года на 4 тыс. чалавек.

Паводле аператыўных статыстычных даных, у студзені-лістападзе нарадзілася 108 тыс. 779 дзяцей, памерла - 115 тыс. 332 чалавекі. У цэлым па краіне ў студзені-лістападзе 2013 года колькасць памерлых перавысіла колькасць народжаных на 6% (у студзені-лістападзе 2012 года - на 9,2%).

У студзені-лістападзе 2013 года ў параўнанні з аналагічным перыядам 2012 года колькасць зарэгістраваных шлюбаў павялічылася на 14,9%, колькасць разводаў зменшылася на 9,5%

*БелТА.*

# Перамагчы беларускіх хакераў польскія дыпламаты не здольныя

**Такім чынам, праблема «крадзяжу чаргі» на падачу дакументаў у консульства Польшчы дагэтуль застаецца не вырашанай.**

І без дапамогі беларускіх праваахоўных органаў вырашыць яе немагчыма. Пра гэта карэспандэнту Еўрарадыё паведамілі ў МЗС Польшчы.

«Тое, што мы маглі зрабіць: перанесці серверы ў Польшчу, абараніць іх максімальна — гэта было зроблена. Але гэтыя меры не дзейнічаюць. Як мы разумеем, гэта ўжо пытанне крымінальнае, і расследаваннем такіх выпадкаў павінен займацца беларускі бок».

Каб падаць дакументы ў польскае консульства на атрыманне візы, неабходна «злавіць» месца ў электроннай чарзе на сайце польскай амбасады.

Але хакеры з дапамогай адмысловых праграм перахопліваюць чаргу, а потым прадаюць яе ахвочым. У адказ на прэтэнзіі польскага боку кіраўнік упраўлення па раскрыцці злачынстваў у галіне высокіх тэхналогій МУС Ігар Чарненка кажа, што яны займаюцца праблемай крадзяжу чаргі. Але сітуацыя ўскладняецца тым, што немагчыма прыцягнуць да адказнасці чалавека толькі за тое, што ён выкарыстоўвае адпаведныя праграмы для запаўнення анкет.

*Зміцер Лукашук, Еўрарадыё.*

# Калядная "казка" ў Лучаі!

■ **Лена Колтан-Клімза.**
*Фота: Андрэй Мацур, Тадэвуш Барыла.*




**Сёлета, нягледзячы на адсутнасць зімовых атрыбутаў такіх, як снег і мароз, удалося адчуць сапраўдную чароўную "казку" на Божае Нараджэнне.**

Лучайская парафія загадзя рыхтавалася да свята. 19-20 снежня тут адбыліся рэкалекцыі і пачалася перыгрынацыя абраза Маці Божай Будслаўскай. Копія якога затрымаецца ў парафіі аж да Вялікадня. Напярэдадні свята скаўты даставілі ў святыню Бэтлеемскі агонь. Вернікі ўпрыгожылі святыню ялінкамі, гірляндамі, рознакаляровымі агеньчыкамі. Сваё пачэснае месца занялі яселькі – у цэнтральнай частцы касцёла, перад галоўным аўтаром. Дарэчы, ксёндз Мікалай ніколі не паўтараецца і штогод ствараe яселькі, непадобнымі на мінулагоднія. Традыцыйна на вуліцы ў агародкы касцёла ўсталёўваюцца яшчэ адны яселькі, якія відаць здалёк, дзякуючы цудоўнай падсветцы. Над галоўным уваходам у храм – размясціўся надпіс: «Езус нарадзіўся».





І вось а гадзіне 20 пачалося святкаванне Божага Нараджэння 2013 у Лучаі!!!

Урачыста, у суправаджэнні двухсотгадовага аргана пачалася святая Імша. Працэсіяй праз увесь касцёл было занесена нованароджанае Дзіцятка Езус у яселькі. Сёлета вельмі кранаючым быў пастырскі ліст Апостальскага адміністратара Віцебскай дыяцэзіі ксяндза прэлата Францішка Кісяля, які, працытаваўшы цудоўныя словы Папы Францішка: « Езус сёння прыходзіць да нас, каб сказаць нам: Глянь на свайго брата, глянь на сваю сястру!», заклікае нас перажыць свята з думкаю пра іншых. Нават заахвочвае даверыць Хрысту не свае просьбы, але іншых.

Калі надышоў час перадаць знак супакою, то ксёндз Мікалай заахвоціў вернікаў зрабіць гэта з усмешкай, з прабачэннем. І сам прайшоў праз касцёл і прывітаўся з парафіянамі і гасцямі свята.

Пасля святой Імшы ўсе дзеткі, не толькі тыя, хто ўдзельнічаў у Раратах, але і ўсе прысутныя, атрымалі салодкія пачастункі з рук ксяндза пробашча, сапраўднага "святога Мікалая"!

На заканчэнне свята вернікі сабраліся каля ўваходнай брамы перад святыняй, каб паўдзельнічаць у асвячэнні вулічнай батлейкі і паназіраць за рознакаляровымі феерверкамі на Лучайскім небе!

Разыходзіліся вернікі, несучы ў свае дамы лампадкі з Бэтлеемскім агнём і радасную навіну аб Нараджэнні Збаўцы!!!

**P.S.** – 5 студзеня 2014 г. запрашаем у 11:00 у Лучай на цікавую сутрэчу з беларускімі артыстамі!

## Віншаванкі

*Мацюшонак Крысціну Вітольдаўну*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Ну где нам взять такую песню,
Найти достойные слова,
Чтоб от горячих поздравлений
Кружилась Ваша голова.
Чтоб в этот день Вы вспоминали
Не сумму прожитых всех лет,
А о печалях забывали,
Бог с ними, у кого их нет.
Чтоб в этот день Вы помнили
Про то, чем жизнь была светла,
Про все счастливые минуты,
Про все удачные дела.
Так будьте все же впредь судьбой согреты
И оставайтесь вечно молодой,
Пусть будет долгим ваше бабье лето,
Как вечно небо над землей!

*Калетыў "ВГ"*

*Надзею Скрабатун*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

С днем рожденья тебя поздравляем
И хотим в этот день пожелать,
Чтоб светила всегда звезда счастья
И не смела вовек угасать.
Мы желаем здоровья, успехов,
Чтоб любовь твоя светлой была,
Чтобы люди тебе улыбались
И река твоей жизни текла.
Мы желаем тебе не встречаться
С горем, разлукой, изменой
И желаем всегда оставаться
Доброй, красивой и верной.

*Сям'я.*

*Надзею Скрабатун*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Желаем в этот день прекрасный
Любви огромной, неземной!
Чтоб не был дефицит финансов,
Любимый рядом был с тобой!
Чтоб мир вокруг твой улыбался,
Глаза сияли ярче звезд!
Тобой чтоб каждый любовался,
Желаем смеха, а не слез.
Здоровья крепкого и силы
Для многих дел в твоей судьбе!
Чтобы друзья тебя любили!
Желаем счастья мы тебе!

*Калектыў "ВГ"*

*Таццяну Уладзіміраўну Керзіёнак*

**Віншуем з юбілеем!**

У тебя сегодня День рожденья
И при этом юбилей.
Пожелать хотим с любовью
Мы удачи и здоровья,
Быть в прекрасном настроеньи
И удачливее всех!
Чтобы радость не кончалась,
Чтоб у тебя всё получалось
И чтобы после Дня рожденья
Тебе сопутствовал успех!

*Дзеці, унучка Віялета, зяць, сваты*

# Наступны год абвешчаны ў Літве годам Аршанскай бітвы

**Сейм Літвы абвясціў 2014-ты годам Аршанскай бітвы ў гонар перамогі ў бітве супраць Маскоўскага княства. Як паведамляе партал ru.delfi.lt, адпаведны законапраект быў прыняты літоўскім парламентам 23 снежня.**

Як адзначаецца ў пастанове сейма, рашэнне прынята з улікам таго, што ў верасні 2014 года спаўняецца 500 гадоў з моманту «гістарычнай перамогі Вялікага Княства Літоўскага ў бітве пад Оршай і абароны тэрытарыяльнай цэласнасці літоўскіх зямель». Сейм даручыў ураду Літвы падрыхтаваць праграму ўрачыстасцяў, звязаных з угодкамі бітвы.



Гетман Канстанцін Астрожскі.

У Беларусі падрыхтоўка да святкавання 500-годдзя бітвы пад Оршай ідзе на грамадскім узроўні. З ініцыятывай адзначыць гэтую гістарычную дату выступіла група дзеячаў культуры і прадстаўнікоў апазіцыі. Аргкамітэт, першае пасяджэнне якога адбылося ў пачатку лістапада, узначаліў гісторык Анатоль Грыцкевіч. Папярэдні план мерапрыемстваў святкавання ўключае правядзенне міжнародных канферэнцый, выпуск памятных знакаў і іншай сувенірнай прадукцыі, стварэнне турыстычнага маршруту на тэму 500-годдзя бітвы. Грамадскі аргкамітэт мае намер звярнуцца ў Міністэрства абароны з прапановай узяць удзел у падрыхтоўцы мерапрыемстваў ці арганізаваць святкаванне 500-годдзя бітвы пад Оршай на дзяржаўным узроўні.

Бітва на рацэ Крапіўне пад Оршай адбылася 8 верасня 1514 года. Трыццацітысячнае войска Вялікага Княства Літоўскага на чале з гетманам Канстанцінам Астрожскім атрымала перамогу над 80-тысячнай арміяй Вялікага Княства Маскоўскага. Дэмакратычныя сілы Беларусі штогод адзначаюць угодкі бітвы пад Оршай як неафіцыйны Дзень беларускай воінскай славы. На дзяржаўным узроўні гэтая падзея не адзначаецца.

*Таццяна Каравянкова, БелаПАН.*

# Мядзведзеў: Украіна і Беларусь адказваюць за крэдыт усім набыткам сваёй краіны

**Украіна і Беларусь незалежна ад магчымай змены ўлады гарантуюць вяртанне крэдытаў Расіі, заявіў прэм'ер-міністр РФ Дзмітрый Мядзведзеў 27 снежня, паведамляе агенцтва Прайм.**

«Строга кажучы, пад украінскі крэдыт сёння і пад беларускі крэдыт сябры і партнёры дадуць нам суверэнную гарантыю. І хто б ні быў прэзідэнтам Украіны ў будучыні або Беларусі, у прынцыпе мы можам дабівацца вяртання гэтых грошай усімі даступнымі спосабамі. Яны адказваюць за гэты крэдыт усім набыткам сваёй краіны», — сказаў Мядзведзеў.

Аб рашэнні выдзеліць Беларусі ў 2014 годзе дадатковa пазыковыя сродкі да 2 млрд. долараў заявіў прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін па выніках пасяджэння Вышэйшага дзяржсавета Саюзнай дзяржавы 25 снежня ў Маскве. Украіне Масква выдзяляе 15 млрд. долараў.

*Арцём Шрайбман, БелаПАН.*

# Куды знікла возера?

Уладзімір Скрабатун

Цікава разглядаць старадаўнія мапы, асабліва, калі ёсць магчымасць на некалькіх мапах адсачыць змены на пэўнай тэрыторыі цягам двух стагоддзяў. Мы, напрыклад, убачым, што на абшарах нашага і сумежных раёнаў зніклі назаўсёды некалькі дзясяткаў азёраў. І гэта не нейкія там сажалкі ў колішніх панскіх парках, а досыць разлеглыя вадаёмы. Ёсць сярод іх азёры, а ёсць і рукатворныя, напрыклад млыновыя ставы, калі рака перагароджвалася плацінай і перад водным млыном утвараўся вялікі вадаём.

Млыновы вадаём на рацэ Аржаніца ў Новых Шарабаях ужо адзначаны на царскай мапе 3-вёрстцы 1860-х гадоў.

Калі ўлічыць, што праца геадэзістаў над складаннем мапаў Расійскай імперыі цягнулася не адзін дзясятак гадоў, то можна меркаваць, што гэты вадаём на момант складання мапы ўжо існаваў з пачатку XIX ст., а то і ў XVIII ст у часы Рэчы Паспалітай. Вадаём адзначаны і на больш позніх мапах, у прыватнасці, на польскай вайсковай тапаграфічнай мапе за 1932 год.

Калі б гэта быў нязначны вадаём, то наўрад ці ён стаў тэмай нашага апавядання. Вадаём жа ў Новых Шарабаях перавышае па плошчы вядомыя бліжэйшыя азёры ў ваколіцах Глыбокага: Кагальнае, Падлазна, Бяглец, Пусцянец, Арэхаўскае, Белае, Марцэбыліна, Шубнікі.

У савецкія часы прыгожы страдаўні млын з разынкавай мурoўкай, які стаяў яшчэ ў 1970-я гг – быў ужо не патрэбны. І гэта натуральна, у краіне існавала дастаткова сучасных млынкамбінатаў. Вадасховішча збегла. Будынак млына разабралі на камяні.

Хтосьці згадвае, што яшчэ ў нетакія далёкія часы на збеглым вадаёме, дзе ўсё ж яшчэ і цяпер цячэ Аржаніца, ставілі жарліцы на шчупакоў і ўловы былі багатыя, а некаторыя сцвярджаюць, што і цяпер спрабуюць лавіць шчупакоў...

Аднак, па сведчаннях мясцовых рыбакоў, лона колішняга вадаёма спрэч зарасло хмызняком, трыснягом чаротам, і лавіць там няма чаго.

Ці можна аднавіць вадаём у Новых Шарабаях? Думаю, што не толькі можна, але і трэба. І не такія ўжо вялікія выдаткі на аднаўленне бетоннай плаціны. Максімум 5 самазвалаў бетона. Зразумела, трэба перад гэтым зрабіць высечку хмызоў у лоне будучага аднаўленага вадаёма. Ачысціць бульдозерам дно ад глею. У дадатак, можна было б у некаторых месцах з дапамогай экскаватара выкапаць некалькі паглыбленняў – зімавальных ям, каб у вадаёме мог вадзіцца лешч, сом, мянтуз і іншая рыба, якая любіць глыбокія месцы.

І што атрымаем? Атрымаем ізноў вадаём, які можа стаць месцам адпачынку для Шунеўцаў, Старых і Новых Шарабаёў, а таксама Гірстуноў. Зразумела, і рыбная лоўля. Зручна і для тых, хто не мае свайго аўто – можна дабрацца з горада і на аўтобусе, які едзе да Верхняга.

Шкада, што толькі цяпер, а не 15-20 гадоў таму пачалі на Беларусі праводзіць маркетынг гарадоў. Вынікі маркетынгу гарадоў мы бачым: Вішнёвы фэст у Глыбокім, «Журавіны і Жураўлі Мёрскага краю» ў Мёрах і г.д. Да маркетынгу сельскіх населеных пунктаў справа пакуль не дайшла. А шкада! У нас многія жадаюць з наступленнем перадпенсійнага ці пенсійнага ўзросту пераехаць жыць у вёску, альбо на радзіму, а кватэру, напрыклад, у Мінску, пакінуць сваім дзецям. Патрэбен домік у вёсцы, дзе ёсць возера ці добрая рыбная рэчка і лес з грыбамі, ды каб недалёка ад райцэнтра (Паставаў, Браслава ці Глыбокага). Вось вам і маркетынг тых жа Новых Шарабаёў і бліжэйшых вёсак. Апусцелы бацькоўскі дом можна і добра прадаць пад дачу ці жыллё некаму з мінчукоў. І вёскі не знікнуць з твару зямлі. Балазе – побач вялікі вадаём (аднoўлены), блізка горад і аўтобусы ходзяць.

Зрэшты, адзін з тамтэйшых жыхароў і зацяты рыбалоўаматар, апавядаў аўтару гэтых радкоў, што размовы аб аднаўленні млыновага возера ў Новых Шарабаях, вяліся даўно. Усё так, як прапанавана вышэй аўтарам, і хацелі зрабіць: высекчы хмызы, ачысціць лона бульдозерам ад глею, аднавіць плаціну. Але ўсё на ўроўні размоваў і скончылася! Чаму? Калі верыць майму апавядальніку – на дне збеглага вадаёма знаходзяцца міны, якія кінулі ў возера немцы ў пачатку ліпеня 1944 года, якія паспешна адыходзілі на Захад пад націскам Чырвонай Арміі. Каб боепрыпасы не дасталіся праціўніку – немцы скінулі іх у возера.

Верыць ці не верыць майму апавядальніку? Тут, прабачце, як кажуць: за колькі купіў, за столькі і прадаў. Не хацелася б беспадстаўна ўзнімаць жарсці. Мо й плёткі, аднак – важкая падстава не займацца аднаўленнем вадаёма. Але, калі там, на дне колішняга вадаёма, насамрэч ляжаць міны і аб гэтым ведаюць усе Шунеўцы і абодва Шарабаёў, то чаму яны там да сёння ляжаць! Не хапала нам, каб сюды пачалі ездзіць здабытчыкі тратылу з усяе Беларусі! Ці проста, банальна, некалі нехта са свавольнікаў, неабачліва, падпаліць сухую траву ўвесну...







**Вынятка з мапы «польскіх часоў» , дзе ў Новых Шарабаях (Szarabaje Nw.) на рацэ Аржаніца паказаны вялікі вадаём і млын (адзначаны 6-канцовай зоркай), які належыў да фальварка Шарабаі (Fw. Szarabaje). Для параўнання – побач возера Кагальнае ў цэнтры Глыбокага, з той самай мапы і таго ж маштабу. Маркерамі – злева і справа – пазначаная даўжыня млыновага вадаёма ў Новых Шарабаях. Паводле маркераў бачна: вадаём у Новых Шарабаях быў у паўтара раза больш па плошчы, чым возера Кагальнае.**

## Жыхар Кармы пагражаў сякерай начальніку прыродаахоўнай інспекцыі

**Супрацоўнікі прыродаахоўнай інспекцыі спрабавалі затрымаць жыхара Кармы за незаконную сечку.**

24 снежня ў ходзе рэйду ў лесе яны заўважылі ссечаную сасну і каля яе траіх мужчын з бензапілой. Калі начальнік інспекцыі спытаў іх аб наяўнасці дазволу на высечку, мужчыны селі ў грузавы аўтамабіль «ГАЗ» і паспрабавалі з'ехаць, піша БелаПАН.

Па словах афіцыйнага прадстаўніка УСК па Гомельскай вобласці Марыі Крываногавай, начальнік прыродаахоўнай інспекцыі ўскочыў у кузаў аўтамабіля і загадаў спыніцца. Тады адзін з мужчын стаў пагражаць яму сякерай.

Як высветлілася пазней, затрыманы парушальнік працаваў у лясніцтве і быў звольнены за незаконныя высечкі. У дачыненні да падазраванага распачатая справа па артыкуле 366 КК (гвалт альбо пагроза гвалту ў дачыненні да службовай асобы, якая выконвае службовыя абавязкі).

## Браканьер спрабаваў утапіць прыродаахоўных інспектараў у Нароўлі

**Браканьер, заспеты на месцы злачынства на тэрыторыі запаведніка, аказаў актыўны супраціў прыродаахоўным інспектарам.**

Як паведамілі ў Гомельскай абласной інспекцыі па ахове жывёльнага і расліннага свету, 24 снежня супрацоўнікі інспекцыі заспелі на возеры на тэрыторыі Палескага дзяржаўнага радыяцыйна-экалагічнага запаведніка жыхара Нароўлі, які лавіў рыбу сеткамі. Ён здабыў 22 кілаграмы карасёў, язёў, акунёў, ляшчоў, шчупакоў і яршоў. Прычыненая шкода склала больш за 28 мільёнаў рублёў, перадае БелаПАН.

Пры затрыманні грамадзянін аказаў непадпарадкаванне інспектарам – неадназрова спрабаваў схавацца, адмаўляўся следаваць да месца правапарушэння, пхаў супрацоўнікаў інспекцыі на тонкім лёдзе, чым падвяргаў небяспецы іх жыццё і здароўе. У адносінах парушальніка была ўжыта фізічная сіла.

На месца затрымання была выклікана міліцыя. У адносінах браканьера ўзбуджана справа па артыкуле 281 КК (незаконная рыбалка). Ён змешчаны ў ІВС. Таксама складзены адміністрацыйны пратакол за непадпарадкаванне.

*БелаПАН*

## Ягель не панацэя ад дыябету, але ён зніжае ўзровень глюкозы ў крыві людзей з цукровым дыябетам II тыпу на 40-80%.

**Ягель, ці аленевы мох — група лішайнікаў з роду Кладонія. Гэта адзін з самых буйных лішайнікаў: яго вышыня можа дасягаць 10-15 см.**

Ягель мае бялёсую афарбоўку, таму што асноўную масу лішайніка складаюць найтонкія бясколерныя трубкі – гіфы сцябла. У вільготным стане ягель мяккі, пругкі, але пасля высыхання цвярдзее, становіцца вельмі крохкім, лёгка крышыцца. Гэтыя драбнюткія абломкі пераносяцца ветрам і здольныя даць пачатак новым раслінам.

Добры корм для паўночных аленяў (узімку да 90 % іх рацыёну).

Ягель утрымоўвае ўснінавую кіслату, якая валодае антыбіятычнымі ўласцівасцямі. Ненцы выкарыстоўваюць гэтыя ўласцівасці ягеля ў народнай медыцыне.

Ягель чысціць печань, ныркі, кішачнік, падстраўнікавую залозу, сасуды, лімфу і кроў ад таксінаў.

Рэгулярнае ўжыванне ягеля ў харчаванні спрыяе амаладжэнню арганізма, умацаванню сардэчнай цягліцы, нармалізацыі артэрыяльнага ціску.

Антымікробныя рэчывы, якія змяшчаюцца ў ягелі, актыўныя не толькі супраць стафілакокаў, стрэптакокаў, гнілaсных бактэрый і іншых мікраарганізмаў, але і супраць сухотнай палачкі, захоўваючы пры гэтым карысную мікрафлору кішачніка.

Выяўлены антыаксідантны эфект ягеля, паляпшэнне пранікальнасці клеткавых мембран дазваляе зменшыць узровень глюкозы ў крыві людзей з цукровым дыябетам II тыпу на 40-80%.



**Зараснікі ягелю ў Галубіцкай пушчы.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

## У Ружанах знайшлі метэарыт, які ўпаў у 1894 годзе

**Экспазіцыя музея «Палацавы комплекс Сапегаў» у Ружанах (Брэсцкая вобласць) папоўнілася Ружанскім метэарытам, які зваліўся на Беларусь у 1894 годзе. Вага невялікага каменя складае 26 кілаграмаў. У найбліжэйшы час яго абяцаюць прадставіць наведнікам музея.**

Касмічнага прышэльца яшчэ ў 1897 годзе ўнеслі ў спіс метэарытаў свету, але так і не знайшлі. У 1955 годзе заяўлялася аб яго выяўленні, аднак аналіз паказаў, што знойдзены камень зямнога паходжання, перадае СТВ.

Аднак падчас рамонту агароджы ў мясцовай царкве Святога Пятра і Паўла ўвагу працоўных прыцягнуў камень, які мала быў падобны на звычайны. На думку даследчыкаў, у царкоўную агароджу ён трапіў падчас рамонту пасля Вялікай Айчыннай, калі жыхары зносілі камяні з навакольных палёў.

*telegraf.by*

